*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

www.nv-online.info

# Народная Воля

№91 (3934)

21 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Блізіца да завяршэння падпіска на «Народную Волю» на першую палову 2015 года. Не спазніцеся!*

ПАЛІТКУХНЯ

# Таямнічы ці рабочы?

***На гэтым тыдні з двухдзённым візітам беларускую сталіцу наведаў дырэктар дэпартамента Расіі, “Усходняга партнёрства”, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунар ВІГАНД. Гэты візіт загадзя не афішаваўся, і таму з боку апазіцыі прагучала шмат крытыкі: маўляў, вось яна, новая асаблівасць брусельскай дыпламатыі — прыехаць ціха, непрыкметна. Некаторыя аналітыкі нават назвалі перамовы Віганда з прадстаўнікамі афіцыйнага Мінска сепаратнымі, а пазіцыю Бруселя — здрадніцкай.***

***З якой жа мэтай прыязджаў высокі еўрапейскі чыноўнік ў Мінск?***

У беларускую сталіцу Віганд прыляцеў 18 лістапада. І адразу ж паспяшаўся на сустрэчу са сваякамі палітзняволеных. Размова зацягнулася, і еўрачыноўнік на 45 хвілін спазніўся на наступную сустрэчу — з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці. Праўда, прадстаўнікі тых грамадзянскіх арганізацый, якія маюць схільнасць да палітыкі, а таксама лідары апазіцыйных партый на гэтую сустрэчу запрошаны не былі. Чаму? Як пазней патлумачыў журналістам сам Віганд, гэты ягоны візіт меў канкрэтны парадак дня. Гэта была чацвёртая сустрэча бакоў у рамках дыялогу паміж Беларуссю і ЕС па пытаннях мадэрнізацыі, які Брусель праводзіць як з грамадзянскай супольнасцю, так і з беларускім урадам. Тэмы для абмеркавання былі ўзгоднены раней і мелі выключна сацыяльны накірунак — рэгіянальнае развіццё і мясцовае самакіраванне, пенсіённая рэформа, гендэрныя пытанні, а таксама пытанні адукацыі і далучэння Беларусі да Балонскага працэсу. Таму з Вігандам у Беларусь прыехала і група чыноўнікаў Еўракамісіі, якія займаюцца менавіта пытаннямі рэгіянальнага развіцця, адукацыі, малаабароненых слаёў насельніцтва.

*“Калі прыязджаеш некуды на абмежаваны час, дык цяжка сустрэцца з усімі,* — падкрэсліў 19 лістапада на сустрэчы з журналістамі Гунар Віганд. — *Я раней сустракаўся з лідарамі апазіцыі і ў Мінску, і ў Бруселі. З імі сустракаліся і еўракамісары, і прадстаўнікі дыпмісій краін Еўрасаюза, якія акрэдытаваны ў Беларусі. Прычым апошняя сустрэча была не больш чым за дзесяць дзён таму”.*

Член Грамадскага Балонскага камітэта, былы прарэктар ЕГУ, прафесар **Уладзімір Дунаеў**, які быў сярод беларускіх экспертаў, запрошаных на сустрэчы з еўрадыпламатам, выказаў меркаванне, што Брусель, хутчэй за ўсё, вызначыў тыя сацыяльныя праблемы, якія *“перспектыўныя і рэалістычныя для супрацоўніцтва”.* Паводле неафіцыйнай інфармацыі, 19 лістапада ў беларускім МЗС Гунар Віганд правёў перамовы з кіраўнікамі дэпартаментаў, якія курыруюць менавіта сацыяльныя пытанні.

Дарэчы, літаральна ўвесь дзень 19 лістапада еўрачыноўнік правёў у Міністэрстве замежных спраў Беларусі. Спачатку сустрэўся з міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем (праўда, гэта хутчэй была сустрэча прадстаўнічая), а потым з намеснікам Макея Аленай Купчыной. Падчас гэтых перамоў вырашаліся канкрэтныя пытанні адносін паміж ЕС і Беларуссю і пытанні “Усходняга партнёрства”. Пасля сустрэчы з’явілася інфармацыя, што на наступным тыдні ў Бруселі адбудзецца другі раўнд перамоў аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і Еўрасаюзам.

Але ж, безумоўна, галоўнае пытанне, якое спарадзіў візіт Віганда ў нашу краіну: ці не фліртуе ЕС з афіцыйным Мінскам? Журналісты, дарэчы, напрамую запыталіся ў Гунара Віганда, як далёка бакі могуць пайсці ў наладжванні адносін, нават калі палітвязні не выйдуць на свабоду (а гэта, як вядома, адна з галоўных умоў ЕС для наладжвання дыялогу з афіцыйным Мінскам). *“Цяпер мы гэта прапрацоўваем,* — адказаў еўрачыноўнік. — *Але, безумоўна, будзе лепш для ўсіх, калі абодва бакі будуць настроены самым станоўчым чынам і будуць рабіць усё неабходнае, каб поўны патэнцыял супрацоўніцтва паміж ЕС і Беларуссю быў рэалізаваны. Але гэта немагчыма без значнага прагрэсу ў сферы вяршэнства права, дэмакратыі і правоў чалавека. Нашы адносіны — гэта адносіны не аднаго пытання, у нас пытанняў шмат”.*

Паводле слоў Віганда, на пачатку 2015 года адбудзецца апошні, пяты, раўнд перамоў у рамках дыялогу паміж Беларуссю і ЕС па пытаннях мадэрнізацыі, і ён будзе тычыцца сфер вяршэнства права і выбарчай сістэмы.

— *На мой погляд, нічога надзвычайнага не адбылося,* — каменціруе вынікі візіту ў Мінск Гунара Віганда палітолаг-міжнароднік **Андрэй Фёдараў**. — *Гэта чацвёртая сустрэча ў рамках дыялогу па мадэрнізацыі. Ну, не сустрэўся Віганд з прадстаўнікамі апазіцыі, але ён меў размову з роднымі зніклых, з роднымі палітзняволеных, з праваабаронцамі, прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасці. А тое, што ёсць кантакт з афіцыйным Мінскам?.. Дык ідзе працэс, вынікі якога мы, можа, убачым, а можа, і не ўбачым. А зараз хваляваціца няма чаго...*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СКАЗАНО!

## *Андрей КЛИМОВ:*

— У меня возникают серьезные сомнения по поводу умственных способностей тех людей, которые уже заявили о своих намерениях поучаствовать в президентских выборах следующего года. Думать о том, что эти люди предатели или просто собираются на этом заработать, я не хочу, поэтому лучше буду считать, что у них недостаточно ума. Какие вообще выборы в Беларуси? На их проведение планируется потратить 100 миллиардов рублей. Зачем? Чтобы опять побили молодежь на улицах? Чтобы людей по тюрьмам затаскали?

Я понимаю еще где-то кандидатов, которые на это идут. У кого-то амбиции, у кого-то какие-то коммерческие дела. А простым людям зачем верить в то, что как будто что-то изменится в лучшую сторону? Раздайте лучше все эти деньги пенсионерам на лекарства. Выборы в нашей стране нужно просто отменить, они нам не нужны...

Мое мнение однозначно: порядочным людям на этих выборах делать нечего. Хотят они вместе с Ермошиной формально обозначить свои позиции, так есть для этого Гайдукевич и другие. Затратьте на это миллион рублей, распечатайте портреты и объявите результаты. Ничего больше не надо, хватит на все ста долларов”.

**ДОСЬЕ**

**Андрей КЛИМОВ** в середине 1990-х годов входил в пятерку самых известных белорусских предпринимателей, возглавлял акционерное общество “Андрей Климов и К°”, которое занималось строительством, выполняло крупные государственные заказы. Он был учредителем банка и газеты. Был избран депутатом Верховного Совета 13-го созыва.

После того как в 1996 году А.Климов подписал обращение депутатов в Конституционный суд за импичмент президенту, бизнес его был разгромлен, а сам Климов оказался в тюрьме и был признан политзаключенным. После этого его арестовывали и судили еще дважды, и каждый раз правозащитники признавали, что это политическое преследование.

ЗАКУЛІССЕ

*Як вядома, у панядзелак адбылося чарговае пасяджэнне прадстаўнікоў палітычных партый і рухаў. Спачатку грамадскасці паведамілі, што, нарэшце, усе прыйшлі да адзінага рашэння наконт будучай прэзідэнцкай кампаніі, на якую апазіцыйныя сілы пойдуць разам з адзіным кандыдатам. Але пазней з’явілася інфармацыя, што на самай справе частка апазіцыйных лідараў пайшла на абвастрэнне, што перамоўны працэс набыў характар бясконцай перастаноўкі кропак у пагадненні аб адзінай стратэгіі, што ўсё не так адназначна. Напрыклад, Аб’яднаная грамадзянская партыя і Партыя левых “Справядлівы свет” да агульнага пагаднення яшчэ не далучыліся і могуць пайсці на выбары другой калонай. Адным словам, дамовіцца ўдалося не ўсім і не з усімі.*

*“Народная Воля” вырашыла высветліць з першых вуснаў, што перашкаджае нашым палітыкам дамовіцца па асноўных пытаннях сумесных дзеянняў напярэдадні прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.*

# Кожны сваёй дарогай?

**Павел СЕВЯРЫНЕЦ,
сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя”. Менавіта ён займаўся перамовамі як незацікаўлены каардынатар:**

— Праблема палягае ў безадказнасці нашых палітыкаў. Ужо сем месяцаў яны не могуць зацвердзіць працэдуру правядзення Кангрэса дэмакратычных сіл. Можна абвінавачваць адзін аднаго ці ўсіх агулам, але сэнс у тым, каб перадаць паўнамоцтвы на вырашэнне пытання адзінства Кангрэсу. Калі мы дэмакраты, то тысячы грамадскіх актывістаў павінны вырашаць, удзел у выбарах ці байкот стане найлепшай стратэгіяй. Яны павінны вырашаць, хто будзе “адзіным кандыдатам” — Статкевіч, Лябедзька, Мілінкевіч, Някляеў ці нехта яшчэ. І, па вялікім рахунку, да 1 снежня шанц вырашыць усе пытанні правядзення Кангрэса ёсць. Задача гістарычная, прыклад Украіны пабач, і таму трэба вырашаць.

**Юрась ГУБАРЭВІЧ,
каардынатар руху “За Свабоду”:**

— У перамовах мы з вясны не маглі прасунуцца далей ні на крок. Вось і вырашылі, што тыя, хто здолеў дамовіцца пра працэдуру вылучэння дэлегатаў на Кангрэс, і будуць у ім удзельнічаць. Падпісалі дакумент. Вынеслі сітуацыю на публіку. Можам пачынаць працу проста сёння. Наконт таго, што кажа кіраўнік АГП Анатоль Лябедзька: маўляў, трэба пачаць працу раней... Тады трэба правесці сходы, вылучыць дэлегатаў — калі тэхнічна мы гэта можам зрабіць, то няма праблем. Да таго ж Анатоль Лябедзька хоча дакладна ведаць, з кім персанальна яму давядзецца канкурыраваць на Кангрэсе за статус “адзінага”. Але кандыдаты могуць быць і па-за межамі нашай палітычнай “сямёркі”. Сяргей Калякін, кіраўнік Партыі левых “Справядлівы свет”, не падпісаў пагаднення, бо сказаў, што яму яшчэ трэба параіцца з паплечнікамі па партыі. Так што зроблены штуршок, і да 1 снежня ўсё можа вырашыцца станоўча.

**Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА,
лідар Аб’яднанай грамадзянскай партыі:**

— Цяпер, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, не стаяць чэргі з жадаючых зарэгістравацца кандыдатам на пасаду прэзідэнта. Толькі прадстаўнікі нашай партыі заявілі, што гатовы браць на сябе адказнасць і прымаць удзел у выбарчай кампаніі. Мы прапаноўваем: калі ёсць кандыдатуры, то мы гатовы абмяркоўваць і Кангрэс, і кандыдатуры і ад сённяшняга дня пачынаць працу з рабочымі, урачамі Бешанковічаў і настаўнікамі Смаргоні. Што тычыцца пасяджэння ў панядзелак, пасля якога “панеслася навіна” аб тым, што дамоўленасці дасягнуты, то ад нас на ім быў прадстаўнік. Але ніколі раней не было такога, каб палітыкі сустрэліся, дамовіліся ў прэсу нічога не даваць, а потым нехта пачаў бы склікаць прэс-канферэнцыю. Таму ўсё сціснулася да прадстаўнікоў ад адной кааліцыі — “Народны рэферэндум”. Паўгода яны не могуць вылучыць прэтэндэнта. Па Статкевічу было тры галасаванні. Былі “за” я і Павел Севярынец. Галасаваў “за” і Някляеў, але рабіў агаворку, што гэта яго асабістая пазіцыя, а не пазіцыя кампаніі “Гавары праўду!”. Тры другія структуры гэтай кааліцыі галасавалі супраць. Дык пра што гаварыць?..

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ,
старшыня Партыі БНФ:**

— Праблема ў тым, што людзі яшчэ не ўсвядомілі, што з пачаткам расійскай агрэсіі ва Украіне ўвесь наш рэгіён апынуўся ў зусім іншай сітуацыі. Поля для нейкіх амбіцыйных гульняў, для спроб прапаганды выключна сваёй асобы ці сваёй партыі не засталося. У 2015 годзе гутарка, без перабольшвання, будзе ісці пра лёс нашай краіны. А некаторым палітыкам хочацца ў гулі гуляць.

Па вялікім рахунку, панядзелкавае пасяджэнне рыхтавалася даўно. На гэты ж дзень былі запрашэнні на міжнародную сустрэчу, але ніхто з нас не паехаў, бо наша пасяджэнне было больш важным. Што да правядзення Кангрэса, то яго трэба было правесці яшчэ летам. Ёсць пытанні па вылучэнні дэлегатаў, разглядаліся розныя сцэнарыі, але не варта чапляцца за нейкія дробязі. Трэба тэрмінова шукаць кампраміс. Галоўнае цяпер, як мы выглядаем у вачах свайго народа і міжнароднай супольнасці. Вось пра што трэба падумаць.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ДА ВЕДАМА**

*Аб’яднаная грамадзянская партыя і Партыя левых “Справядлівы свет” выступаюць супраць вылучэння дэлегатаў на Кангрэс шляхам збору подпісаў сярод грамадзян. Яны лічаць, што праверыць такія подпісы будзе проста немагчыма. АГП і “Справядлівы свет” прапануюць дэлегатаў Кангрэса дэмакратычных сіл выбіраць з дапамогай партыйных квот, а таксама квот для VIP-персон. У якасці дэлегатаў Кангрэса, які абярэ адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі, яны гатовы прызнаць таксама тых асоб, якія былі зарэгістраваны кандыдатамі ў дэпутаты падчас выбараў у мясцовыя Саветы.*

ЗДАРЭННЕ

# Пасол Беларусі ў Расіі трапіў у аварыю пад Смаленскам. Дзве жанчыны загінулі

Як стала вядома, 19 лістапада аўтамабіль пасла Беларусі ў Расіі **Ігара Петрышэнкі** трапіў у аварыю ў Смаленскай вобласці.

Як вынікае з афіцыйнай зводкі здарэнняў, “у 10.47 па маскоўскім часе каля населенага пункта Якаўлева Mercedes з дыпламатычнымі нумарамі пад кіраваннем вадзіцеля пасла сутыкнуўся з легкавым аўтамабілем ВАЗ, у якім ехалі дзве пенсіянеркі 1939 і 1937 гадоў нараджэння”. У выніку аварыі абедзве жанчыны загінулі. Адна з іх памерла на месцы, а другая памерла ў бальніцы горада Ярцава, перадае РІА “Новости”.

Беларускі дыпламат і яго кіроўца не пацярпелі. Пасля вадзіцель застаўся даваць тлумачэнні супрацоўнікам ДІБДР, а Ігар Петрышэнка вельмі спяшаўся, бо адразу з’ехаў з месца ДТЗ. Паводле афіцыйнай версіі, “паехаў на працу”. Нагадаем, што напярэдадні, 18 лістапада, у Мінску праходзіла сумесная калегія МЗС Беларусі і Расіі. Трэба думаць, менавіта пасля яе пасол вяртаўся ў Маскву.

Матэрыялы расследавання пакуль не абнародаваны. Хто канкрэтна вінаваты ў смяротным ДТЗ — кіроўца “Жыгулёў” ці шафёр беларускага дыпламата, будзе ўстаноўлена падчас следства. Паводле папярэдніх дадзеных, якія спачатку паведамілі мясцоваму выданню “Сігма Плюс” у ДІБДР Смаленскай вобласці, гаворка ішла аб значным перавышэнні хуткасці адным з удзельнікаў ДТЗ. Аднак неўзабаве гэтая публікацыя без тлумачэння прычын знікла з сайта выдання, а паліцэйскія сталі сцвярджаць, што пенсіянер, кіроўца “Жыгулёў”, пры павароце налева не прапусціў дыпламатычны Mercedes, які рухаўся ў сустрэчным напрамку.

Аднак, мяркуючы па фота з месца здарэння, слова “рухаўся” тут варта было б замяніць на “ляцеў”. Бо, як відаць па здымках, універсал “Жыгулі” ад удару разарвала на дзве часткі, што, па-першае, не пакінула дзвюм пажылым расіянкам ніякага шанцу выжыць, а па-другое — сведчыць аб хуткасці беларускага дыпламатычнага аўто. Смаленскія СМІ пішуць, што ехаў аўтамабіль пасла з хуткасцю не менш за 200—220 км/г. Пры гэтых умовах заўважыць Mercedes пенсіянер на “Жыгулях”, які паварочваў налева, мог проста не паспець.

Мясцовыя СМІ адзначаюць вось яшчэ што: маўляў, кіроўца і дыпламат павялі сябе не па-джэнтльменску пасля ДТЗ, і першае, што зрабілі, — адвінцілі са свайго аўто дыпламатычныя нумары. Так гэта ці не, мы сведкамі не былі, але ў любым выпадку пра ДТЗ стала вядома. А Ігар Петрышэнка “выказаў сем’ям загінуўшых глыбокія спачуванні”. Па крайняй меры так сцвярджаюць у беларускім пасольстве ў Маскве.

**Алег СНОЎ.**

**АФІЦЫЙНА**

*Прэс-сакратар Міністэрства замежных спраў Беларусі* ***Дзмітрый Міронччык*** *учора пракаментаваў падрабязнасці аўтамабільнай трагедыі, якая здарылася з удзелам пасла Беларусі ў Расіі.*

*“За рулём „Мерседэса” знаходзіўся кіроўца — грамадзянін Беларусі”,* — пацвердзіў прадстаўнік МЗС. Паводле яго слоў, расійскія праваахоўныя органы высунулі папярэднюю версію, згодна з якой у дарожна-транспартным здарэнні вінаваты кіроўца аўтамабіля “ВАЗ”.

Як паведаміў Дзмітрый Міронччык, кіроўца і пасол Беларусі сур’ёзна не пацярпелі; Ігар Петрышэнка знаходзіўся на заднім сядзенні “Мерседэса” і быў прышпілены.

НАДВОР’Е

## *Сустракаем зіму!*

У гэтыя дні на надвор’е ў Беларусі ўплыў аказваюць паветраныя масы, якія паступаюць з еўрапейскай тэрыторыі Расіі, паведамляе Белгідраметэацэнтр.

Пераважна па заходняй палове краіны пройдуць ападкі (дождж, мокры снег), у асобных раёнах туман, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра ўначы -6...+1°С, па ўсходзе пры праясненнях да -8°С; днём -2...+3°С.

22 лістапада Беларусь будзе ў асноўным знаходзіцца ў вобласці павышанага атмасфернага ціску, і толькі на захадзе атмасферны фронт пачне страчваць актыўнасць. Па захадзе пройдзе кароткачасовы снег, мокры снег, месцамі будзе галалёд. Тэмпература паветра ўначы -1...-8°С, па ўсходзе паветра астудзіцца да -10°С; днём максімум тэмператур складзе -3...+2°С.

Народная Воля http://www.nv-online.info
21 ЛІСТАПАДА 2014 г.

ЛЯ ПРАХАДНОЙ...

# «А куды падзецца?»



Светлагорскі завод хімічных валокнаў... Якая сітуацыя, якія мае вынікі? Ці задаволены людзі?

Каб атрымаць адказ на гэтыя і многія іншыя пытанні, я накіравалася непасрэдна на прадпрыемства. Прайсці праз прахадную адміністрацыйнага корпуса не ўдалося. Мне суха паведамілі, што прыехала дэлегацыя з Тайваня і таму не да маёй сціплай персоны.

Намеснік дырэктара па ідэалогіі **Андрэй БУНАКОЎ** параіў звязацца з ім праз гадзіну. Прайшла не адна, а тры гадзіны... Выйсці на сувязь з ім не ўдалося.

Каб не губляць дарэмна час, пайшла на заводскую прахадную. Даведаўшыся, што я журналістка, людзі адразу пачыналі азірацца па баках. Пры гэтым размаўлялі даволі прыязна, але кожны прасіў не фатаграфаваць, і ўсе як адзін катэгарычна адмаўляліся назваць сваё прозвішча.

"*Чаму? Якія ў вас могуць быць праблемы?*" — запытваю ў трох жанчын і мужчыны. "*Ай, ну мала што можа быць. Тут і так план скарацілі, заробкі ў нас малыя ў параўнанні з тымі, якія былі раней. Але ўсё роўна не хочацца, каб потым былі якія пытанні ад кіраўніцтва*", — кажа **Марыя**, жанчына 38-гадовага ўзросту. "*Я на тарыфе, дык атрымліваю тры мільёны. Уявіце сабе, як на гэтыя грошы можна пражыць, калі яшчэ ўлічыць, што кошты штодня растуць. Хапае толькі за кватэру заплаціць ды самыя неабходныя прадукты набыць. А каб нешта набыць для дома ці нейкія рэчы для сябе, пра гэта і гаворкі няма. Але не хочацца і гэта згубіць*", — кажа яе сяброўка **Жанна**.

Запытваю: "*А што, быў падобны прэцэдэнт? Вы ж не на сакрэтным аб'екце працуеце. Што з вамі могуць зрабіць? Звольніць за тое, што размаўляеце з журналістам папулярнага выдання? Адкуль у вас такі страх?!*"

За ўсіх адказала прыгожая бландзінка **Вольга**: *"Ведаеце, людзі ўсе баяцца. Можа, у Мінску смялейшыя за нас, а тут спытайце ў каго іншага, а я сваё прозвішча не назаву. Ой, не трэба мяне фатаграфаваць! Адзінае што скажу, дык гэта тое, што жыццё стала больш цяжкае. Я на здзельшчыне і атрымліваю "бруднымі" шэсць мільёнаў. Дык гэта трэба гарбаціцца і гарбаціцца. Да таго ж нас штрафуюць увесь час за ўсялякую дробязь. Праца тут нялёгкая. А куды падзецца? Хто мяне на якую работу возьме ў маім узросце? Дарэчы, яшчэ паспрабуй адсюль звольніцца. Тым, хто сам хоча, нагадваюць пра кантракт, каб дапрацавалі да канца тэрміну. Нам ужо кіраўніцтва кажа: "Прыводзьце сюды сваіх дзяцей. Мы іх будзем заахвочваць. Няхай тут працуюць". Маладыя ж сюды не жадаюць ісці. Дык, можа, ужо хочуць прыгоннае права ўзаконіць? У нас са Светлагорска шмат моладзі з'язджае на заробкі — хто ў Расію, хто ў Польшчу, хто куды. А з другога боку, за што тут трымацца? Але хоць і капейкі, але ўсё ж не галадаеш..."*

Вось з завода выйшаў **Ігар,** якога чакалі мае суразмоўцы. "*Адчуваеце, што працуеце на хімічным прадпрыемстве*?" — запытваю адразу. "*Ды асабліва не адчуваю. Тыя, хто ў "шкодным" цэху працуе, атрымліваюць дадатковыя 10%, напрыклад, у фарбавальным. Да таго ж ёсць добры санаторый "Сярэбраныя ключы". Мы можам узімку адпачываць за 15% ад кошту, а летам — за 20%. Праўда, там у асноўным расійцы адпачываюць. Іх ледзь не 90% ад агульнай колькасці. Наконт здароўя ні я, ні жонка мая пакуль не скардзімся. Але са страхам чакаем, калі запусцяць прадпрыемства, якое побач з намі кітайцы будуюць. Вось тады, відаць, пачнецца сапраўдны "гамон".*

У прадпрыемства ўваходзяць тры заводы — поліэфірных нітак, штучнага валакна і завод вытворчасці тавараў народнага спажывання. Мой новы суразмоўца **Анатоль,** рабочы са стажам, працуе на заводзе поліэфірных нітак.

Даведаўшыся, што я з "Народнай Волі", пачаў усміхацца: "*Незалежных журналістаў я яшчэ не сустракаў. А вы чаму пра нас вырашылі напісаць? Маё прозвішча? А нашто вам? Не, прабачце, не скажу... Ну чаму баюся?.. Я не тое што баюся, але не хачу. А мне нічога не будзе з-за таго, што я з вамі размаўляю? А то яшчэ скажуць, што з апазіцыяй тут звязаўся. Яшчэ звольняць мяне на старасці гадоў... Ведаеце, тут жа няма куды ўладкавацца на працу. Я ж ужо не малады, на заробкі дакладна нікуды не паеду. І што рабіць? Пакуль трымаемся пацiху. Праўда, план нам істотна знізілі. Але людзі не надта рвуцца сюды на працу. Шмат народу звальняецца. На ўсім прадпрыемстве ўсяго працуе каля пяці тысяч чалавек. А гэта не так і шмат, калі параўнаць з агульнай колькасцю насельніцтва — у горадзе ўсяго больш за 70 тысяч, здаецца. Шмат у нас і пенсіянераў цяпер. Будзем спадзявацца, што наш завод не закрыюць. Мы ж забяспечваем поліэфірам усю айчынную прамысловасць. Асноўныя нашы канкурэнты — Кітай і Тайвань. Яны завальваюць увесь свет сваімі ніткамі*".

У размову ўмешваецца мужчына, які больш смелы, ён прадставіўся **Дзмітрыем Аляксандравічам**: "*Калі ў нас якасць сярэдняя, то ў замежнікаў — ніжэй за сярэднюю. Калі б мы толькі закрыліся, то яны адразу сталі б дэмпінгаваць. А потым што, нам самім набываць у іх няякасную нітку па высокіх коштах? Не дачакаюцца... У нас была рэканструкцыя ў 2012 годзе, замянілі шмат абсталявання. У прадзільным цэху замянілі ўсе машыны. Так што яшчэ папрацуем..."*

Сапраўды, на сённяшні дзень "Светлагорскхімвалакно" — самае сучаснае прадпрыемства ў Еўропе. У нашых суседзяў такіх прадпрыемстваў няма. А наша, беларускае, сёння адзінае, якое супрацьстаіць кітайскім. Сёння закрыць толькі завод поліэфірнай ніткі — выкінуць на вуліцу не менш за 2000 чалавек.

Другі завод на прадпрыемстве — завод штучнага валакна. Яго часта называюць поліпрапіленам. На ім вырабляюць вугляродна-валакністыя матэрыялы. Каб зразумець значнасць гэтай вытворчасці, дастаткова сказаць, што яе прадукцыю выкарыстоўваюць у касмічнай і самалётнай прамысловасці. Некалі, калі Савецкі Саюз імкнуўся пабудаваць свой Stels, тут распрацоўваліся ўнікальныя тэхналогіі, але пасля таго, як амерыканцы ўсіх апярэдзілі, вытворчасць пацiху сканала, але на некаторыя рэчы попыт застаўся. Нешта для сябе набываюць еўрапейцы. Кажуць, што расійцы таксама выпрабоўваюць для сябе нейкія тэхналогіі. Да таго ж карыстаецца попытам арселон. З гэтага матэрыялу вырабляюць вопратку для пажарных. Тут наша вытворчасць мае толькі аднаго канкурэнта ў Еўропе — знакаміты французскі "DuPont". Рабочыя не без гонару кажуць, што наша тканіна больш танная і якасная. Вось гэты завод не стратны. Рабочыя сказалі, што расійцы хацелі яго набыць. Як бы там ні было, але пакуль ён застаецца нашым, беларускім.

Цікава, што ніхто з рабочых, калі скардзіўся на малыя заробкі, не сказаў пра прафсаюз. Калі я намагалася прайсці праз прахадную, то намеснік дырэктара сказаў, што ніводны прадстаўнік прафкама са мной сустрэцца таксама не зможа — "старшыня ў адпачынку, намеснік на выездзе ў вобласці, а іншыя заняты".

*"Ці ўздымаў прафсаюз пытанне павышэння заробкаў і паляпшэння ўмоў працы?"* — запытваю ў двух мужчын, якія з цікавасцю слухалі маю гутарку з іншымі. Тыя заўсміхаліся. Адзін з іх толькі і сказаў: "*Жартуеце? Пра заробкі, наколькі я памятаю, нам раздавалі нейкія брашуркі. Але каб патрабаваць павышэння — такога не прыпомню".*

Зразумела, што "Светлагорскхімвалакно" — асноўнае прадпрыемства ў горадзе. Зразумела, што многія, хто працуе на ім, па сутнасці, ледзь-ледзь выжываюць, бо прыстойнымі заробкамі пахваліцца не могуць. Таму можна зразумець і страх людзей страціць працу.

**Любоў ЛУНЁВА.**

*Светлагорск.*

НУ І НУ!

## *Алеся Меха хочуць прыцягнуць да адказнасці як «удзельніка паўстання ў Свіслачы»*

Менавіта так Алесю Меху сказаў па тэлефоне ўчастковы Кобрынскага РАУС лейтэнант міліцыі Анатоль Тарасюк, які запрасіў актывіста ў РАУС.

Было б смешна, калі б не было так сумна, кажа Алесь Мех. Ён добра зразумеў сэнс гэтай бязглуздзіцы. Яго хочуць прыцягнуць да адказнасці за ўдзел у шанаванні ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага. Ужо шэсць гадоў запар Алесь Мех, які пражывае ў Кобрыне, разам з аднадумцамі ездзіць у Свіслач, каб адзначыць угодкі паўстання Каліноўскага 29 кастрычніка. Але міліцыя такую праяву павагі да герояў беларускай гісторыі ўпарта расцэньвае як супрацьзаконныя дзеянні.

SOS!

## *Мой дом — мая катарга*

Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі паведаміла пра значнае павелічэнне колькасці забойстваў у сем'ях.

*"У бягучым годзе ў Беларусі зарэгістравана 103 забойствы і 205 наўмысных цяжкіх цялесных пашкоджанняў. Кожнае трэцяе з іх здзяйсняецца ў дачыненні да блізкіх. Колькасць забойстваў, учыненых членамі сям'і, за 10 месяцаў 2014 года ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года павялічылася на трэць,* — паведаміў учора намеснік начальніка ўпраўлення прафілактыкі галоўнага ўпраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі МУС **Сяргей Красуцкі** на прэс-канферэнцыі ў Мінску. — *Найбольш складаная крымінагенная сітуацыя ў сямейна-бытавой сферы назіраецца ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях, дзе колькасць забойстваў павялічылася ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года амаль у тры разы".*

ЭВРИКА!

## *Совершили научное открытие*

Специалисты Гомельского государственного медуниверситета нашли в речной воде лечебные вирусы, с помощью которых можно будет создавать лекарства, нейтрализующие устойчивые к антибиотикам бактерии.

Исследователи кафедры микробиологии, вирусологии и иммунологии Гомельского государственного медицинского университета совершили научное открытие летом этого года.

Ученые нашли решение проблемы полной устойчивости некоторых бактерий к антибиотикам, отыскав альтернативное лекарство на основе бактериофагов — вирусов, убивающих микробов. Последние были найдены в водах Сожа, Днепра и Припяти.

Свои научные труды специалисты опубликовали в некоторых зарубежных изданиях. Их разработкой также заинтересовалась российская корпорация. Планируется, что новое лекарство будет использоваться для лечения людей в Беларуси, России и Казахстане.

МОДЕРНИЗАЦИЯ

# Увеличить зарплаты белорусов могут только реформы

***Четыре года назад белорусские власти планировали, что зарплата белорусов к 2015 году достигнет 1000 долларов в эквиваленте. Сегодня очевидно, что эта цель недостижима — месячный доход почти 40% работников, согласно данным официальной статистики, не дотягивает и до 500 долларов. Вместе с тем эксперты Всемирного банка считают, что доходы белорусов могут удвоиться и достигнуть уровня соседних стран. В случае проведения структурных реформ.***




## Искусственный рост доходов населения остановился

В последние месяцы рост зарплат в Беларуси существенно замедлился. Если за первую половину года средняя зарплата увеличилась в номинальном выражении почти на 900 тыс. рублей и достигла в июне 6,2 млн рублей, то в июле—сентябре произошел коренной перелом — средняя зарплата за третий квартал выросла по сравнению с июньским уровнем только на 2,3%, и составила в сентябре 6,34 млн рублей.

В реальном выражении (то есть с учетом инфляции) и вовсе наблюдается снижение доходов населения. Так, в сентябре реальная зарплата сократилась на 2% по сравнению с аналогичным месяцем прошлого года, в августе — на 5,1%.

Изменения в динамике зарплат, зафиксированные в третьем квартале, произошли после того, как в этот процесс вмешалось правительство.

Напомним, что в августе 2014 года вступило в силу решение Совмина, согласно которому госпредприятия могут увеличить зарплаты своим работникам только при условии адекватного повышения производительности труда. Учитывая, что производительность эта растет медленно и в стране доминируют госпредприятия, решение правительства сразу же повлияло на динамику средней зарплаты.

Шаг, сделанный властями, соответствует рекомендациям международных финансовых организаций, которые говорят о том, что рост зарплат в Беларуси должен быть жестко увязан с темпами роста производительности труда, иначе могут возникать негативные последствия в виде инфляции и ослабления курса национальной валюты.

По мнению экспертов Всемирного банка, Беларусь в последние годы этому правилу не соответствовала, и ускоренный рост зарплат существенно увеличил издержки отечественных предприятий. Продолжение такой политики, считают экономисты международной организации, крайне нежелательно.

Увязав в августе административным образом темпы роста зарплат с динамикой производительности труда, белорусские власти тем самым признали, что возможности для искусственного увеличения доходов населения ограничены.

В то же время, по оценкам Всемирного банка, Беларусь по доходу на душу населения отстает от других стран (с аналогичным уровнем человеческого развития) примерно в два раза. Если в Беларуси доход на душу населения составляет 6800 долларов, то в соседних странах — порядка 12.000 долларов. Чтобы достичь более высокого уровня доходов населения, эксперты банка рекомендуют пойти на структурные реформы белорусской экономики.

По мнению внешних наблюдателей, базовые предпосылки для повышения эффективности белорусской экономики существуют.

*"Людские ресурсы, которыми располагает страна, вселяют надежду на построение динамично развивающейся экономики. Образовательная система может готовить специалистов для разных видов экономической деятельности, рабочая сила дисциплинирована",* — констатировал на этой неделе глава представительства Всемирного банка в Беларуси **Ян Чул Ким**, выступая в Минске на "Кастрычніцкім эканамічным форуме".

## Для реформ все готово. Будут ли они?

По мнению экспертов, повышение эффективности белорусской экономики лежит в плоскости реформирования госсектора, который формирует порядка 70% белорусского ВВП. Всемирный банк неоднократно указывал, что госпредприятия в ряде случаев являются источником низкой эффективности, и рекомендовал провести структурные изменения в этом направлении.

По мнению белорусских экономистов, в том случае, если бы финансовые ресурсы распределялись исключительно на рыночных условиях, это привело бы к реформированию сектора госпредприятий и позволило бы повысить эффективность работы белорусской экономики.

Однако особенность белорусской экономической модели состоит в том, что финансовые ресурсы длительное время распределяются административным образом, и это позволяет поддерживать на плаву даже низкоэффективные предприятия. Для помощи таким предприятиям используются так называемые директивные кредиты, которые выдаются госбанками.

Вместе с тем на фоне больших выплат по внешнему госдолгу сегодня возможности государства как никогда ограничены, и власти всерьез задумались об эффективности использования финансовых средств. Оценки госорганов показали, что отдача от государственных инвестиций не радует.

Поэтому к настоящему времени Министерство экономики разработало концепцию повышения эффективности государственной поддержки экономики. По информации БелаПАН, документ уже передан в правительство и будет вноситься на рассмотрение президента.

Тот факт, что нынешняя система господдержки не дает желаемой отдачи, экономические власти сегодня признают.

*"Всем понятно, что существует в стране проблема эффективности распределения ресурсов, и необходимо эту задачу решать",* — отметил заместитель министра финансов **Максим Ермолович**, выступая на "Кастрычніцкім эканамічным форуме".

Он дал понять, что пересмотр условий поддержки предприятий неизбежно приведет к тому, что некоторые организации могут потерять традиционные источники финансирования, вынуждены будут закрыться, и придется как-то трудоустраивать оставшихся без работы людей.

*"Мы долго работали над вопросами, как обеспечить краткосрочную быструю переквалификацию людей для нужд экономики, какие затраты в связи с этим необходимы, кто будет финансировать этот процесс... Соответствующие механизмы к настоящему времени выработаны. Поэтому мы подготовлены к такому развитию событий, и в зависимости от того, какая будет скорость реформ, также произойдут и трансформации в области социальной поддержки населения",* — отметил заместитель министра финансов.

В общем, экономические власти считают необходимыми структурные реформы и подготовились к этому. Однако оговорка о том, что конкретные меры будут зависеть от того, "какая будет скорость реформ", явно свидетельствует: правительство ждет политического решения по данному вопросу.

Миссия Международного валютного фонда, находившаяся в октябре в Минске, призывала белорусские власти к решительным реформам и выражала готовность поддержать структурную перестройку экономики новым кредитом.

Вместе с тем эксперты сомневаются в том, что руководство Беларуси готово сегодня к проведению серьезных изменений в экономике. *"Мы делаем вывод, что отсутствует политическая воля и существует желание сохранить существующую модель",* — констатировал Ян Чул Ким.

**Дмитрий ЗАЯЦ.**

ВІНШУЕМ!

## *16 акадэмікаў і 28 членаў-карэспандэнтаў*

***Такое папаўненне атрымала днямі Нацыянальная акадэмія навук Беларусі.***

Паводле вынікаў тайнага галасавання Агульнага сходу Акадэміі навук абраны:

**Правадзейнымі членамі (акадэмікамі) НАН Беларусі:**

| | |
|---|---|
| Янчэўскі Вячаслаў Іванавіч | Алгебраічная геаметрыя |
| Кілін Сяргей Якаўлевіч | Квантавая інфарматыка |
| Гапоненка Сяргей Васільевіч | Оптыка нанаструктур |
| Карзюк Віктар Іванавіч | Прыкладная матэматыка |
| Чыжык Сяргей Антонавіч | Нанатэхналогіі |
| Ласкаўнёў Аляксандр Пятровіч | Парашковая металургія і кампазіцыйныя матэрыялы |
| Шкадарэвіч Аляксей Пятровіч | Прыборабудаванне |
| Пеняськоў Алег Глебавіч | Цеплафізіка |
| Хрыпач Уладзімір Аляксандравіч | Біяарганічная хімія |
| Більдзюкевіч Аляксандр Віктаравіч | Высокамалекулярныя злучэнні |
| Карабанаў Аляксандр Кірылавіч | Геалогія |
| Нікіфараў Міхаіл Яўхімавіч | Заалогія. Біялагічныя рэсурсы жывёльнага свету |
| Сукала Аляксандр Васільевіч | Дзіцячая нефралогія |
| Астроўскі Юрый Пятровіч | Кардыяхірургія |
| Лакотка Аляксандр Іванавіч | Мастацтвазнаўства |
| Лапа Віталій Вітальевіч | Аграхімія |

**Членамі-карэспандэнтамі НАН Беларусі:**

| | |
|---|---|
| Тузікаў Аляксандр Васільевіч | Інфарматыка ў медыцыне і біялогіі |
| Белы Уладзімір Мікалаевіч | Лазерная фізіка |
| Белавус Анатоль Іванавіч | Мікраэлектроніка |
| Кастраміцкі Сяргей Міхайлавіч | Радыёфізіка |
| Ціхаміраў Сяргей Аляксандравіч | Спектраскапія |
| Пясецкі Сцяпан Сцяпанавіч | Палімерныя матэрыялы і тэхналогіі |
| Рубанік Васілій Васільевіч | Тэхнічная акустыка |
| Шэлег Валерый Канстанцінавіч | Тэхналогіі машынабудавання |
| Федасюк Валерый Міхайлавіч | Фізіка і тэхніка магнітных матэрыялаў |
| Раманюк Фёдар Аляксеевіч | Энергетыка |
| Асташынскі Валянцін Міронавіч | Энергетычныя працэсы і тэхналогіі |
| Прушак Віктар Якаўлевіч | Геатэхналогія |
| Свірыдаў Дзмітрый Вадзімавіч | Неарганічная хімія |
| Калінічэнка Алена Мікалаеўна | Арганічная хімія |
| Кулак Анатоль Іосіфавіч | Фізічная хімія |
| Шкуматаў Уладзімір Макаравіч | Біятэхналогія |
| Шалыга Мікалай Уладзіміравіч | Біяфізіка |
| Падутаў Уладзімір Яўгеньевіч | Генетыка |
| Ціток Уладзімір Уладзіміравіч | Фізіялогія і біяхімія раслін |
| Варабей Аляксандр Уладзіміравіч | Лазерная медыцына |
| Сняжыцкі Віктар Аляксандравіч | Тэрапія |
| Бялецкі Аляксандр Валянцінавіч | Траўматалогія і артапедыя |
| Красны Сяргей Анатольевіч | Уралогія |
| Трацьяк Станіслаў Іванавіч | Хірургічная эндакрыналогія |
| Каваленя Аляксандр Аляксандравіч | Гісторыя Беларусі |
| Дайнека Аляксей Яўгеньевіч | Прагназаванне і рэгуляванне знешнегандлёвай дзейнасці |
| Прывалаў Фёдар Іванавіч | Раслінаводства |
| Азаранка Уладзімір Вітальевіч | Тэхналогіі і сродкі механізацыі сельскай гаспадаркі (тэхнічныя навукі) |

СІТУАЦЫЯ

# У брэсцкай гімназіі ў школьнікаў скануюць адбіткі пальцаў

*Бацькі напісалі ліст старшыні гарвыканкама і заяву ў пракуратуру.*

У брэсцкай гімназіі №4 у школьнікаў пачалі скаціраваць адбіткі пальцаў. Гэта робіцца для новай прапускной сістэмы, усталяванай на ўваходзе, паведамляе tut.by.

Многія бацькі школьнікаў даведаліся пра скаціраванне пальцаў толькі пасля самой працэдуры. Незадаволеным бацькам паведамілі, што адбіткі пальцаў іх дзяцей выдаляць з базы.

20 бацькоў, якія не згодны з новай сістэмай, напісалі калектыўны ліст старшыні Брэсцкага гарвыканкама. Акрамя таго, яны накіравалі зварот у пракуратуру горада.

Тым часам у адміністрацыі гімназіі кажуць, што турнікет на ўваходзе дазволіць абмежаваць доступ непажаданых асоб у гімназію. Дырэктар **Алена Шкулепа** кажа, што гэтая сістэма дазволіць, акрамя іншага, дысцыплінаваць навучэнцаў. Пры жаданні бацькі змогуць нават кантраляваць час прыходу і сыходу са школы сваіх дзяцей праз СМС-паведамленні.

Дырэктар зазначыла, што цяпер адбіткі пальцаў у дзяцей скануюць толькі з пісьмовага дазволу бацькоў. Калі бацькі не згодны, яны могуць набыць для дзіцяці пластыкавую картку за 20 тысяч рублёў. Пры страце новы "пропуск" будзе каштаваць 50 тысяч рублёў.

ЖАХ

## *Пачвара*

*Галоўнае следчае ўпраўленне Следчага камітэта завяршыла расследаванне крымінальнай справы на 39-гадовага ўраджэнца Бабруйска. У сярэдзіне сёлетняга ліпеня ў лясным масіве каля Даўгінаўскага тракту ў Мінску ён згвалтаваў 11 гадовую дзяўчынку.*

Як інфармуе БелаПАН, на працягу ўсяго расследавання абвінавачаны паводзіў сябе задзірліва. Пра свае злачынствы ён расказваў з асаблівым цынізмам і жорсткасцю. Мужчына заявіў, што спярша збіраўся забіць дзяўчынку, аднак потым перадумаў.

Следства выявіла, што абвінавачаны раней ужо двойчы забіваў згвалтаваных дзяцей. Першы раз ён зрабіў гэта ў непаўналетнім узросце на тэрыторыі Беларусі, другі — на тэрыторыі Расіі. Таксама ён учыніў шэраг іншых злачынстваў сексуальнага характару на тэрыторыі Расіі.

Мужчына знаходзіцца пад вартай. Матэрыялы яго справы перададзены пракурору для накіравання ў суд. Яго вінавацяць у згвалтаванні заведама непаўналетняй, рабаванні і крадзяжы.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

# Кто имеет право на юбилей Огинского?



*В одном из интервью белорусским СМИ Полномочный и Чрезвычайный Посол Литвы в Беларуси **Эвалдас Игнатавичюс** сказал, что в его стране идет подготовка к важному событию следующего года — 250-летнему юбилею **Михала Клеофаса Огинского.** Но я что-то не слышал, чтобы в Беларуси собирались широко отмечать эту дату. Есть ли информация на эту тему у "Народной Воли"?*

**Алексей Ковальчук, Гродно.**

Чтобы получить компетентную информацию, мы связались с начальником управления учреждений культуры и народного творчества Министерства культуры **Натальей Ивановной Задерковской**. Она сказала, что отметить юбилей композитора в нашей стране собираются с достойным размахом. Прежде всего в стране создан оргкомитет по подготовке к торжествам во главе с министром культуры Борисом Владимировичем Светловым. План мероприятий сформирован еще три года назад. Это выпуск достаточно обширного нотного наследия автора знаменитого полонеза "Прощание с Родиной", проведение исторических семинаров, художественных пленэров, музыкальных и театральных фестивалей, посвященных композитору. Кроме столицы задействованы Молодечно и Сморгонь, между которыми находится имение Залесье. Именно там жил наш князь, когда писал свой прекрасный, печальный и таинственный опус ля-минор (оригинал произведения до сих пор не найден). Само имение в этом году полностью отреставрировано, в нем создан туристическо-культурный комплекс, он уже принимает гостей из Литвы, Латвии и, конечно, наших соотечественников. Основные торжества пройдут в сентябре 2015 года именно в усадьбе Огинского.

У князя-дипломата были поместья не только в Беларуси, но и в Литве — на Тракайских землях. Они достались ему от отца и деда. Тогда это была одна страна, утратившая, к сожалению, свою независимость, за которую Огинский и боролся, вел переговоры с Наполеоном и с российским императором. Поэтому естественно, что и Литва, а также Польша будут отмечать юбилей композитора.

День рождения М.К.Огинского появится в календаре памятных дат ЮНЕСКО.



**Елена МОЛОЧКО.**

ФОТАФАКТ

# Дзе гэтая вуліца імя Васіля Быкава?

*У беларускай прэсе час ад часу з'яўляецца тэма перайменавання якой-небудзь сталічнай вуліцы ў вуліцу імя Васіля Быкава. Класік беларускай літаратуры, ніякіх сумневаў, варты не толькі вуліцы, але і праспекта, універсітэта, помніка. Аднак Быкаў не сімпатызаваў існуючай уладзе, і гэтага аказалася дастаткова, каб не ўшаноўваць на радзіме памяць аднаго з самых вядомых беларускіх сыноў.*






Хаця тыя, хто сцвярджае, што ў Беларусі няма вуліц Быкава, гаворыць не зусім праўду. Такая вуліца ёсць. Хаця дабрацца да яе не так проста. Спачатку трэба ехаць на электрычцы да станцыі "Ждановічы", потым блукаць крывымі вулачкамі пасёлка да самых яго ўскраін.

Распытваць мясцовых жыхароў амаль не мае сэнсу, бо пра вуліцу Быкава пакуль нават яны не ведаюць. Адзіны памочнік — карта на смартфоне, дзякуючы якой можна знайсці патрэбны адрас. У нейкі момант пасёлак з савецка-маркотнага робіцца прыбрана-аграрэнесансным, вакол пачынаюць узвышацца катэджы з вокнамі-байніцамі, ззаду застаецца перакрэслены знак "Ждановічы". А далей — вёска Каменная Горка, якая пакуль уваходзіць у склад Мінскага раёна. Яшчэ некалькі паваротаў, і перад вамі тыповая пасялковая вуліца "новых беларусаў", да гэтага часу да канца не забудаваная. Катэджы, маёнткі, ружовыя сцены. Адна розніца — нязвыклыя беларускаму воку таблічкі "Вуліца Васіля Быкава".

Тапонім узнік не сам па сабе, а дзякуючы намаганням мясцовага дэпутата. Увогуле, і глядзіцца назва даволі дзіўна ў асяроддзі вуліц Школьнай, Артылерыстаў, Танкістаў... Самысамы край пасёлка. Далей толькі поле...

ІЗ ОПЫТА

## Получить рецепт удалось только через 4 дня

В №88 от 11 ноября 2014 г. "Народная Воля" опубликовала разъяснение Минздрава РБ по поводу ужесточения порядка отпуска лекарств. В нем со ссылкой на Всемирную организацию здравоохранения говорится о том, что ежегодно в мире 3 миллиона человек получают осложнения от бесконтрольного приема лекарств. Это означает, что по такой причине страдает 1 человек из примерно 2500 землян.

Может ли это быть поводом для такого решения Министерства здравоохранения, которое оно приняло в плане отпуска препаратов только по рецептам? Нет, конечно. Мало ли какие аномалии случаются.

А вот к чему привели драконовские меры чиновников Минздрава — я расскажу на собственном примере. Получить рецепт на препарат, который по назначению кардиолога принимаю уже почти 3 года и должен принимать всю оставшуюся жизнь, я смог только через 4 (!) дня. Раньше мне удавалось, как говорится, "прижимая к сердцу лапу", уговорить аптекаря отпускать таблетки по мере необходимости. А теперь пришлось взять талон к участковому врачу — не в тот же день, а на подходящее мне время приема, такой у меня режим работы. Причем, замечу, участковый терапевт пошел мне навстречу и не отправил к кардиологу, который должен выписать этот рецепт. Кардиолога в моей родной поликлинике, которая обслуживает почти 70.000 человек взрослого населения, нет, надо обращаться к районному (!) кардиологу, который ведет прием в другой поликлинике. В общем, участковый терапевт выписал мне рецепт сам и сразу на три месяца. На визит к врачу ушло полтора часа. Мне жаль этого времени, но гораздо больше мне жаль участкового терапевта — бесконечно уставшего от раздраженных людей, часами ожидающих своей очереди, чтобы получить нужный рецепт. И это только начало...

**Михаил ЗАПОЛЬСКИЙ.**

*Минск.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

## Як я хачу, каб мову беларусаў ведалі мае ўнучкі...

Прачытала ліст "Разам!" галоўнага рэдактара спадара Іосіфа Сярэдзіча, і мяне апанаваў цяжкі роздум аб лёсе беларускай мовы. Так — нацыянальная трагедыя!

Летась мая ўнучка, шасцікласніца Лізавета, спыталася: "Бабуля, а чаму мы жывём у Беларусі, а размаўляем па-руску? Беларуская мова такая прыгожая, мілагучная, але яна амаль не гучыць..." Мая "расіяначка" (бацькі Лізкі рускія і вучыліся ў расійскіх школах), ты правільна заўважыла: гэта вялікая несправядлівасць! І я сказала: "Давай з сённяшняга дня будзем размаўляць па-беларуску". "Давай", — адказала ўнучка. І мы некалькі дзён трымаліся, гаварылі паміж сабой так, як дамовіліся. Але не заўважылі, як зноў скаціліся на рускую. Давялося ж уступаць у размову з самымі рознымі людзьмі, а яны ў большасці не валодаюць беларускай мовай.

Добра памятаю, як 1 верасня 1974 года прыйшла на першы ўрок да пяцікласнікаў у васьмігадовую школу пасёлка Галічны, што ў Хабараўскім краі. Пасля прывітання з вучнямі адзін хлопчык запытаўся: "Адкуль вы прыехалі, Таццяна Ягораўна?" Калі я адказала, што з Мінска, з Беларусі, дзеці папрасілі сказаць што-небудзь па-беларуску. На хвілінку задумаўшыся, я пачала чытаць на памяць: "Паміж пустак, балот беларускай зямлі, на ўзбярэжжы ракі шумнацечнай..." Дзеці з затоеным дыханнем слухалі першую частку паэмы "Курган" Янкі Купалы, калі скончыла чытаць, некалькі хвілін у класе стаяла цішыня. Потым адна дзяўчынка з захапленнем выдыхнула: "Какой красивый язык!" І ўсе вучні са згодай кіўнулі галовамі.

Мяне тады здзівіла ўпэўненасць дзяцей у тым, што калі рэспубліка носіць імя Беларусь, то і мова ў яе беларуская. У Арменіі — армянская, у Азербайджане — азербайджанская і г.д. А руская мова аб'ядноўвала ўсіх, хто на той час жыў у Савецкім Саюзе.

У школе, якую я ўзгадала, працавала настаўніцай матэматыкі Аляксандра Дзмітрыеўна, якая адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны прыехала з Украіны па камсамольскай пуцёўцы на Далёкі Усход. Тут жа пабралася шлюбам з былым франтавіком, таксама ўкраінцам. Яны назаўсёды засталіся ў Галічным, рэдка выязджалі на сваю гістарычную радзіму. Але на сваёй сядзібе беражліва захоўвалі культуру роднай зямлі, паміж сабой размаўлялі выключна па-ўкраінску і дачцэ Лесі, якая нарадзілася ў Галічным, перадалі веды і любоў да роднай мовы. Гэтая сям'я была адной з самых паважаных сярод аднавяскоўцаў.

Можна толькі здагадвацца, якая патаемная чорная кан'юнктура авалодала кіраўнікамі нашай дзяржавы, каб так зняважыць беларускую мову! Ці ж не з іх ласкі роднае слова, лічы, стала чужым? Як бяздумна ўспрымалі такую антынацыянальную палітыку чыноўнікі Міністэрства адукацыі і іншых уладных органаў!

Якая такая абыякавасць авалодала беларусамі? Ці то жаданне сляпой падлізлівасці, ці гэта баязлівасць, што цябе за ўжыванне роднай мовы аўтаматычна залічаць у апазіцыю?

Зусім нядаўна была сведкай такой сітуацыі. Па вуліцы В.Харужай ішла вельмі прыгожая маладая пара з дзяўчынкай гадоў пяці. Муж з жонкай размаўлялі на чысцюткай беларускай мове, дзіця падхоплівала іх гутарку. Але больш здзівіла рэакцыя асяроддзя: людзі, якія ішлі побач, выпучвалі вочы, жахліва азіраючыся.

І гэта дзікунства невыпадковае. Прыгадваю, як напрыканцы 1990-х гадоў студэнты, вяртаючыся яшчэ са старой "Ленінкі", праходзілі па вуліцы К.Маркса. Міліцыянт-вартаўнік каля будынка Адміністрацыі прэзідэнта затрымаў хлопца і дзяўчыну, якія паміж сабой вялі гутарку па-беларуску, і прымусіў прад'явіць змесціва сумак. Рускамоўных не затрымаў!

Сумна робіцца ад таго, што большасць нашых суайчыннікаў, лічачы, што размаўляюць выключна на рускай мове, гавораць на "трасянцы". Такая мова рэжа слых у грамадскім транспарце, а яшчэ больш агідна слухаць яе ад чынавенства з экрана тэлевізара.

Можна бясконца разважаць пра павелічэнне колькасці гадзін беларускай мовы ў сярэдняй школе, пра тое, якія творы беларускіх пісьменнікаў вывучаць, але гэта будзе толькі забоўтванне праблемы. Да той пары, пакуль у вышэйшых і сярэдніх спецыяльных вучэбных установах не будзе больш за 50 працэнтаў беларускамоўных груп, бессэнсоўна балбатаць пра тое, што дзяржава не ігнаруе роднае слова. Так, для гэтага патрэбны матэрыяльныя сродкі. Дык знаходзяцца ж грошы на "вялікі хакей" і "вялікі футбол", якія, па маім разуменні, спартсмены павінны зарабляць самі, як артысты зарабляюць у шоу-бізнесе!

Мова тытульнай нацыі — наш брэнд — павінна быць працоўнай, каб нацыя беларусаў не згінула, як гэта здарылася з прусамі, якіх анямечылі рыцары Тэўтонскага ордэна.

...У гэтым годзе мая малодшая ўнучка Алеся пайшла ў першы клас. З беларускай мовай знаёміцца пакуль вусна. "Давай, Лізка, — кажу старэйшай, — утраіх размаўляць па-беларуску, каб Алесі было лягчэй запамінаць словы. І хаця бацькі вашы рускія, вы нарадзіліся і жывяце ў Мінску і павінны свабодна валодаць беларускай мовай. Тым больш што яна аб'ектыўна прызнана ў свеце адной з прыгажэйшых моў".

**Таццяна Ягораўна САЛАЎЁВА.**

*Мінск.*

У НИХ

## Белорусским телевизионщикам поучиться бы у немецких коллег

Хотя со времен моего пребывания в Германии прошел не один год, я не могу забыть многие телепередачи немецкого телевидения. Они велись в основном вечером, с 18 до 22 часов, то есть когда люди, вернувшись с работы, могут спокойно посидеть у телевизора. Вот тогда квалифицированные специалисты и знакомят с различными способами ремонта старинных построек, строительства новых из различных материалов с минимальными затратами, рассказывают о технике безопасности в быту, организации мини-ферм и так далее. При этом в таких передачах отсутствует музыкальное сопровождение, никто ведущих передачи не отвлекает вопросами.

И так каждый вечер. С помощью голубого экрана зритель расширяет свои познания в самых разных сферах человеческой деятельности. Можно сказать, вся страна охвачена учебой. Каждый человек, начиная со школьного возраста, всегда может найти на том или ином канале что-то для себя интересное и полезное.

Через телевидение до немцев доводятся не только современные тенденции и конструктивные особенности, например, при строительстве дома в сельской местности, но и рекламируются строительные материалы, электроинструменты, организация работ и так далее. Одновременно это и самый эффективный способ повышения престижа рабочих профессий. Выбранный правительством Германии ненавязчивый, по-современному разумный подход к повышению профессионализма населения не требует особых затрат.

И в нашей стране есть реальные резервы для повышения квалификации людей, овладения ими смежных профессий. Для этого необходимо больше ориентироваться на опыт тех стран, где традиционно высоко ценится профессионализм, например, Германии и Японии, а также на собственные наработки в отдельные периоды, например, в довоенный.

Телевизионная учеба — это еще и самый эффективный способ повышения Национальной культуры. Сложившееся представление о том, что культура сводится только к реставрации замков, памятников, возрождению ремесел, к изданию старинных книг и так далее, является явно ошибочным. Все это только часть культуры. Ориентация же на повсеместное овладение людьми трудовыми навыками через телевидение с целью решения их жизненно важных проблем собственными силами должна стать весомым (малозатратным) дополнением к традиционной культуре. Человек без соответствующего профессионального мастерства и без навыков владения смежными профессиями в какой-то момент начинает чувствовать свою ущербность и опустошенность. В силу различных обстоятельств нередко он попадает в такую колею, из которой уже не всегда может выбраться. Вряд ли такой человек станет посещать музеи, театры и так далее. Рассчитывать на его возрождение посредством воздействия на него традиционным "культурным пространством" — занятие весьма сомнительное. Высококвалифицированный же человек, как правило, больше заботится о здоровье — своем и своей семьи. Из-за этого и продолжительность его жизни выше, чем тех, кто не имеет соответствующей квалификации. Люди с низким уровнем квалификации, по моим наблюдениям, чаще болеют и нередко становятся обузой для окружающих. Наоборот, люди с высоким уровнем квалификации больше посещают библиотеки, музеи, театры, церковь, спортивные площадки и так далее. К этому же они приобщают с детских лет своих детей и внуков. Около таких людей всегда создается особое пространство с благоприятным воздействием на окружающих.

Таким образом, в Беларуси есть реальная возможность повысить профессиональный, общеобразовательный и культурный уровень населения малообременительным подходом — телевизионной учебой.

**И.А.ПОТАПНЕВ, кандидат технических наук.**

*Минск.*

МЫСЛИ ВСЛУХ

## Процветаем?

*Выражаю глубокую благодарность за публикацию материалов С.Калинкиной, В.Дашука и других авторов, которые правдиво освещают не только актуальные вопросы нашей действительности, но и события не такой уж далекой истории, события Второй мировой войны. Будучи девятилетним пацаном к ее началу, я, житель Западной Белоруссии, помню ее от начала до конца и полностью согласен с теми авторами, кто справедливо, без идеологической окраски пишет о сложнейших перипетиях того времени, когда патриотизм, национализм и откровенный бандитизм были столь переплетены, что не всякий мог в них разобраться ни тогда, ни сейчас, по прошествии времени.*

В воздухе снова "запахло грозой". Власть призывает народ сплотиться перед угрозой как извне, так и изнутри. (Изнутри, повидимому, беспокоит ее больше.) Собирается модернизировать военную промышленность, повысить боеспособность армии, пополнить ее новейшей наземной и воздушной техникой и так далее. И все это для того, чтобы защитить наш суверенитет. Вопрос: от кого? Если раньше взоры наших правителей были обращены на Запад, то теперь надо занимать "круговую оборону". События последних месяцев свидетельствуют о том, что "старший брат" без труда может задушить "младшего" в своих могучих "братских" объятиях. Чего стоит заявление господина Путина, что при желании его войска за два дня были бы не только в Киеве, но и в Риге, Вильнюсе, Таллинне, Варшаве и Бухаресте. "Старший брат" захмелел от эйфории, возомнив себя новым Чингисханом, Македонским, Сталиным...

И "синеокую" эти объятия сдавливают все сильнее и сильнее. Об этом свидетельствует наличие на территории Беларуси российских самолетов, радиолокационных станций, строительство атомной электростанции на российские деньги, проникновение вглубь и вширь российского бизнеса и многое другое.

И это все под аккомпанемент заверений о защите суверенитета как высшей цели властей предержащих.

То, что господин Путин в своем перечне столиц не назвал Минск, видимо, не случайно. Он, как я понимаю, его уже давно считает своим.

На добрый лад не усилением военной мощи надо укреплять суверенитет нашей страны. Жизнь показывает, что в случае внешней агрессии, если таковая будет иметь место, армия его не защитит. Не лучше ли направить эти и другие средства на укрепление здоровья нации, которая медленно и неуклонно вымирает, на обеспечение достойной жизни народа. Ведь от онкологических заболеваний, алкоголизма, наркомании, аварий на дорогах гибнет не меньше людей, чем на какой-нибудь локальной войне. Сделать так, чтобы люди не обращались к миру с просьбой о деньгах, чтобы спасти своих близких при помощи лечения за рубежом. В Витебске умирает от рака почки пятилетняя Наденька Петровская, а в это время с большой помпой проходит "Славянский базар", где на гонорары российским поп-звездам выделяются баснословные деньги.

Последствия Чернобыля ежегодно вырывают из наших рядов тысячи людей, а мы не имеем индивидуальных радиометрических приборов, чтобы контролировать среду обитания и потребляемые продукты.

Вымираем, деградируем. А нам с экранов вбивают в головы, что мы процветаем. Парадокс!

**Владимир Константинович ДРУГАК, пенсионер.**

*г.Пинск.*

З ЛІСТА

## Правраць блакаду

Лідары апазіцыі часта скардзяцца на тое, што ўлады перакрываюць ім кіслarод, не даюць магчымасці выступаць у дзяржаўных сродках масавай інфармацыі. Гэта, вядома, дрэнна. Але ж хто, скажыце, перашкаджае вам, шаноўныя, дапамагчы той жа рэдакцыі газеты "Народная Воля" давесці тыраж газеты да 300—400 тысяч экзэмпляраў і выкарыстоўваць яе старонкі для дыялогу з шырокай аўдыторыяй.

Пацікаўцеся, ці падпісваюцца на "Народную Волю" сябры вашых партый, аб'яднанняў, рухаў. Пераконвайце шараговых людзей у тым, што лепш падпісацца на "Народную Волю", якая піша праўду, аб'ектыўна адлюстроўвае падзеі, чым на нейкі хлуслівы лісток.

Адным словам, правраць інфармацыйную блакаду ў вашых сілах. Толькі не лянуйцеся, не чакайце, што ўлады паднясуць вам усё на спадачку з блакітнай аблямоўкай.

**Анатоль СІЎЧАНКА, пенсіянер.**

*Мінск.*

МУДРЫЕ МЫСЛИ

### ЦИЦЕРОН:

*"Первый закон истории — бояться какой бы то ни было лжи, а затем — не бояться какой бы то ни было правды".*

ПРОБЛЕМА!

## По ямам — на кладбище

Несколько недель прошло после Дедов, а я до сих пор не могу избавиться от горького осадка. Ехали мы с родственниками на кладбище в Колодищи по той самой дороге, про которую уже столько писали, столько говорили... И что же? Водители на узкой раздолбанной дороге объезжают огромные ямы. Все едут со скоростью меньшей, чем в черте города. Редко кто отваживался пару километров ехать со скоростью 60 км/ч.

Разве это не плевок в лицо всем нам? Разве это не пренебрежение к памяти тех, кого уже нет с нами? Разве это не издевательство над нами, живыми? Ну ладно, на Радуницу не залатали дорогу, допустим, не успели после зимы. Но ведь целое лето прошло и осень на исходе! Как же так?

Какие чемпионаты?! Какие АЭС?! Элементарное — дорогу на кладбище — годами не можем привести не то что в цивилизованный, а хотя бы в не аварийный вид!

Не покидает ощущение стыда, горечи и обиды еще и от сознания того, что на нас наплевать всем тем, от кого тут хоть что-то зависит. Для меня эта дорога — демонстрация отношения к нам всем: и к живым, и к мертвым. У кладбищенских ворот очередь — собирают деньги за проезд с каждой машины. Раздраженный работник кричит: "*Что вы мне претензии предъявляете?! Кладбище никакого отношения к дороге не имеет. Наше дело — взимать деньги*". Но и на самом кладбище с дорогами тоже, прямо скажем, не очень. В такой ситуации отчетливо понимаешь, что вопрос "Куда идут те денежные сборы, которые мы платим теперь при прохождении техосмотра?" останется риторическим.

С уважением —

**Леонид Константинович БОРТНИК.**

НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

## Тры білеты ў тэатр

У тую памятную восень Ядзя Карыцкая зламала нагу. Акурат пасля капання бульбы.

— А буракі, морква, капуста яшчэ ж не ўбраны, — жалілася яна медсястры, якая сваімі далікатнымі пальчыкамі ў Дзятлаўскай паліклініцы накладвала ёй гіпс, і з вачэй міжволі пакаціліся слёзы. — Што я цяпер буду рабіць?

— То, можа, у вас дзеці ёсць? Дапамогуць.

— Сын у мяне ёсць, у Мінску жыве. Жанаты, мае дачку. Але ж да гэтага часу я ўсё рабіла сама, то і цяпер не хачу звальваць свае клопаты на іхнія плечы. Нявестка мая з сям'і вучоных: яе бацькі працуюць ва ўніверсітэце. І яна там жа. А мой сын — канструктар на заводзе.

Дадому ў вёску Навасёлкі Ядзю прывезла "хуткая дапамога", бо якраз прыехала туды на выклік. І амаль адразу ж да варот падкаціла прыгожая сынава машына.

— Адкуль жа ты тут раптам з'явіўся? — зніякавела маці.

— Суседка твая цётка Кацярына пазваніла, што з табой бяда. Вось і прыехаў. А ў Жанны якраз выхадны.

Толькі цяпер Ядзя заўважыла на заднім сядзенні нявестку. Яна нешта шукала ў сумачцы.

— Ну, як вы, мама? — спыталася са спагадай, падаючы свекрыві таблетку валідолу. — Пакладзіце пад язык, а то вы надта белая з твару.

— Ой, дачушка, што за дзіва: болю нацярпелася і страху. Гэта ж трэба — на гладкай дарозе ўпала. А тут яшчэ агарод не ўпарадкаваны.

— Пра гэта не думайце. Мы прыедзем і ўбяром, а вас зараз жа забяром да сябе ў Мінск.

Ядзя памкнулася запярэчыць, хацела сказаць, што яна, такая хворая і бездапаможная, будзе ім замінаць, прынясе шмат лішніх клопатаў, але дзеці не далі ёй гаварыць.

— Гэта не абмяркоўваецца! — перапыніў мацерыны пярэчанні сын.

Яны сабралі ў вялікую сумку самыя неабходныя рэчы, найбольш — бялізну і адзенне. Потым Ігар злазіў у склеп і набраў цэлафанавы мяшок бульбы.

Да Мінска дабраліся, калі на двары пачало ўжо шарэць і горад запальваў агні.

— Ой, бабулечка, як я табе рада! — усклікнула ўнучка Волечка, убачыўшы на парозе бацькоў з дарагой госцяй. — Цяпер мы цябе нікуды не адпусцім.

Ядзя пацалавала сваю любіміцу, і на душы адлягло, а то ж усю дарогу думала, як ёй тут жыць, як паставіцца да яе прыезду дзяўчынка, бо цяпер падлеткі бываюць надта ж капрызныя.

— Я пазваніла бабулі Таццяне і дзядулю Валянціну, сказала, што тата з мамай паехалі па цябе, і яны абяцалі вечарам прыехаць да нас.

З таго вечара Ядзя паверыла, што ёсць на свеце шчасце. У сынавай сям'і яна адчувала сябе, як у Бога за пазухай: усе круціліся вакол яе, быццам вакол якой пані, стараліся дагадзіць, апярэдзіць жаданні.

Калі косць зраслася і з нагі быў зняты гіпс, сын з нявесткай па чарзе пачалі вазіць яе ў паліклініку на рэабілітацыю, а вечарамі, узяўшы пад рукі, вадзілі па вуліцы, каб пакрыху расходжвалася. Спачатку трошкі, потым усё больш і больш.

— Як жа там мой няўбраны агарод? Ужо хутка і замаразкі будуць.

— Чаму гэта не ўбраны? — хітравата ўсміхнулася нявестка. — Тата з Ігарам ужо ўбралі і ў склеп знеслі, а заўтра мы паедзем, каб прывезці сюды частку капусты. Я пакрышу ды складу ў трохлітровыя слоікі.

— А маё ж ты дзіцятка! — заплакала Ядзя, цяпер ужо ад радасці. — Што я без вас рабіла б...

Дзень за днём — і кабета паправілася. Напрадвесні, гледзячы, як яна ходзіць, ужо і сказаць нельга было, што быў пералом косці. Як толькі пачаў таяць снег, яна зазбіралася дадому.

— Яшчэ пару дзянькоў, і вы завезяце мяне ў мой куток, — сказала неяк вечарам сыну і нявестцы.

— Не, мама, пра вяртанне ў вёску вы забудзьцеся, — абняўшы яе, загаварыла нявестка. — Хопіць, напрацаваліся за сваё жыццё. Ігар расказваў, як пасля смерці мужа вы высільваліся ў калгасе, стараючыся зарабіць большую капейку: і на ферме, і дзялкі буракоў бралі. Усё, каб сыну дапамагчы: вывучыць яго, у людзі вывесці. А цяпер будзеце жыць з намі. Мы так з Ігарам вырашылі, і мае бацькі гэтае рашэнне адобрылі.

— А як жа хата? — разгублена прамовіла Ядзя.

— А што хата? Яна нябось не з каўбасы, каты не з'ядуць, — нявестка пяшчотна пацалавала яе ў шчаку.

— Што ж я, здаровая, буду рабіць у горадзе?

— А што хачаце. Можаце ў хатніх справах мне дапамагчы, а так будзем з вамі гуляць па горадзе. Вы ж, акрамя вакзала і нашай кватэры, у сталіцы нічога не бачылі. Калі прыедзеце, бывала, на які дзянёк, дык хутчэй спяшаецеся назад, бо гаспадарка была, агарод. А цяпер пажывяце і без усяго гэтага.

У выхадныя дні яны ўсёй сям'ёй рабілі экскурсіі па горадзе. Жанна і Ігар паказвалі ёй такую прыгожую сталіцу, расказвалі пра яе гісторыю. Маці слухала з вялікай цікавасцю, бо і сапраўды яна ў сваім жыцці нічога не бачыла, нідзе не была. А калі сын быў заняты, нявестка сама садзілася за руль машыны і паказала ёй і Хатынь, і Дудуткі, і ў Мастацкі музей звадзіла. Аднойчы, прыйшоўы з работы, паведаміла:

— Мамачка, рыхтуйцеся, я ўзяла тры білеты ў тэатр імя Янкі Купалы. Ігар, я і вы пойдзем глядзець вельмі цікавы спектакль. Гэта будзе праз тыдзень. А да гэтага часу мы купім вам сукенку, адпаведную для такіх выпадкаў, зробім у цырульні прычоску.

Ядзя сумелася, але пярэчыць не стала.

Калі пасля спектакля выйшлі з тэатра, яна ўзяла за руку нявестку і пяшчотна сказала:

— Дзякуй табе, дачушка! Каб не ты з Ігарам, то і гібець мне да скону дзён у апусцелай вёсцы. А так хоць адпачыла і душой, і целам. Як жа мне пашанцавала! Не кожнай маці Бог дарыць такое шчасце...

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ.**

*Дзятлаўскі раён.*

